знаньня трэба аддаць справе будовы работніцкіх дамоў. Куды ні кінеш вокам, усюды відаць новыя будыніны, бязумоўна ня віллы, але вясёлыя, прасторныя, адказываючыя ўсім вымаганьням кватэры для работнікаў. Заработкі ў некаторых шахтах яшчэ не дасягнулі даваеннай рэальнай вартасьці; у іншых аднак яе перавысілі. Трэба дадаць, што работнік, зарабляючы сёньня 75 руб. месячна, ня плаціць ні падаткаў, ні аплат на ўсялякія забясьпечаньні, а толькі складку ў праф. саюз у разьмеры 2 працантаў ад заработку ў месяц. Далей работнікі атрымоўваюць бясплатнае памешканьне з сьвятлом і апалам. Тыя, якія маюць уласныя домікі, атрымоўваюць замест гэтага на 10 працантаў больш.

Найвялікшых здабычаў дасягнулі работнікі ў галіне забясьпечаньня і сацыяльнай апекі. Работнік, які ў царскія часы ня меў нічога ў часе хваробы, карыстаецца сёньня далёка сягаючай апекай. Забясьпечаньне ад хвароб пастаўлена асабліва добра. Хворы атрымлівае поўны заработак і зусім бясплатную доктарскую апеку і лекі праз увесь час хваробы. Работнік, якому патрэбен адпачынак, ідзе ў дом здароўя або адпачынку. І ў гэтым выпадку атрымлівае поўны заработак, бясплатнае ўтрыманьне, лячэньне і дармавы праезд туды і назад. Апека над мацярынствам—лепшая, чым у Нямеччыне. Цяжарная работніца можа ўжо за 2 месяцы да радзін пайсьці ў дом радзільны і заставацца там 2 месяцы пасьля радзін. Цэлы гэты час атрымлівае поўны заработак, апрача бясплатнага ўтрыманьня і апекі, 30 рублёў на выправу для дзіцяці і ў працягу наступных 9 месяцаў—дапамогу ў вышыні 10—15 руб. у месяц. На час працы маці-работніца аддае сваё дзіцё ў яслі. Кожныя 3 гадзіны мае маці права адыйсьці ад работы, каб накарміць сваё дзіцьця. За гэтыя перарывы ў працы з заработку нічога не вылічаюць".

Справаздачу сваю ван-дэр-Мойлен канчае славамі:

„Адно ўсьведаміў я сабе ў СССР—і гэта напоўніла мяне справядлівай гордасьцю: наш пагляд на сьвет — сацыялізм ня ёсьць пустым лятуценьнем, — ён можа зрабіцца фактам. Гэта даказаў усяму сьвету радавы пралетарыят, і гэта яго заслуга".

Нямецкія сацыялісты, як ван-дэр-Мойлен і яго таварышы, каторыя навочна прыглядзіліся да радавае кузьні сацыялістычнай гаспадаркі, ніколі ўжо хіба не дадуць сябе выкарыстаць дзеля вайны, якую гатуе проціў СССР міжнародавы капітал. — Дык зразумелым зьяўляецца, чаму ППС і Цэнтральная Камісія Праф. Саюзаў, апанаваная пэпэсамі так заядла змагаюцца з думкай паслаць работніцкую дэлегацыю з Польшчы ў СССР, якую падае лявіца праф. саюзаў. Разам з міжнародавай і польскай буржуазіяй, польская сацыял-угода творыць адзіны процірадавы фронт.

# З жыцьця „Грамады".

## Бельскі Павятовы Зьезд.

У сераду 24-га лістапада ў 10 гадз. раніцай у кіно тэатры „Gorso" ў м. Бельску адбудзецца зьезд сяброў Грамады, Бельскага павету.

На зьезьдзе неабходна прысутнасьць камітэтаў гмінных і вясковых гурткоў, даверaных асоб і ўсіх сяброў Грамады, Бельскага пав.

**Цэнтральны Сэкрэтарыят Грамады.**

## Павятовы Зьезд Грамады ў Беластоку.

14-га лістапада ў Беластоку адбыўся павятовы зьезд Белар. Сялян.-Работ. Грамады. Зьезд адчыніў пасол Валошын, як старшыня, які запрасіў у прэзыдыум паслоў Рака-Міхайлоўскага і Мятлу, ды сяброў Грамады: Грэся Ал., Казлоўскага Васіля, Астравецкага Мік., і Тарасэвіча Язэпа. Прысутных на зьезьдзе было 230 асоб.

Пасол **Мятла** зрабіў справаздачу аб працы пасольскага клюбу Грамады ў Сойме. Аб зямельным пытаньні ў сувязі з асадніцтвам, аб падатках і школьных справах гаварыў пасол **Рак-Міхайлоўскі**.

У часе прамоваў прабраліся на салю, праламаўшы бакавыя дзьверы, некалькі групаў і навет баёвак чорнасоценнай польскай моладзі і некаторых польскіх партыяў, а таксама шпікі, якія стараліся перашкаджаць нармальнаму ходу зьезду. Ня могучы сарваць зьезду, яны падбілі ўласьніка кіно „Полёнія", дзе адбываўся зьезд, і той заявіў, што ён далей ня можа дапусьціць, каб адбываўся зьезд, і пагасіў электрыку. Тады шпікі і другія ўварваўшыяся „няпрошаныя госьці" пачалі крыкі, гвалт.

Прамова Рака-Міхайлоўскага па школьным пытаньню была гэтымі крыкамі перарвана. Тымчасам гаспадар кіно ў паразуменьні з паліцыяй пусьціў у салю, ня гледзячы на спраціўленьне і пратэсты грамадаўскай міліцыі, новую вялікшую групу „вуліцы". Пачаўся яшчэ большы шум.

Бачучы, што зьезд ужо ня зможа скончыцца ўпарадку, тым больш, што заступнік Старасты адмовіўся выдаліць авантурнікаў і шпікоў, прэзыдыум абвясьціў прозьвішчы кандыдатаў у Павятовы Камітэт Грамады, што і было прынята зьездам аклямацыяй.

Крыкі авантурнікаў павялічываліся. Старшыня зьезду абвясьціў зьезд закончаным. Моцнае „Ад веку мы спалі" разьляглося ў салі; ня стала чутно выкрыкаў правакатараў. З песьняй сваёй прысутныя на зьезьдзе сябры Грамады пачалі выходзіць з салі.

Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на двукротную інтэрвэнцыю старшыні зьезду Валошына ў прысутных на зьезьдзе заступніка Старасты і Камэнданта Павятовае Паліцыі і яго заступніка і просьбы, каб была пастаўлена паліцыя знадворку пры праламаных дзьвярох, успомненыя прадстаўнікі ўлады адпаведных мераў ня прынялі. Пры выхадзе сяброў зьезду з будынку кіно паліцыя правярала дакумэнты і навет рабіла вобыскі ў некаторых сяброў Грамады, выпускаючы зусім вольна авантурнікаў. Некалькі сяброў для спраўджаньня дакумэнтаў былі паліцыяй затрыманы, але на інтэрвэнцыю паслоў былі звольнены.

Павятовы Камітэт месьціцца ў Беластоку па Магілёўскай вул. (на Баранавіцкім шасэ) дом № 12.

## З жыцьця гурткоў.

(Слонімскі пав.).

Ня гледзячы на незаконныя перашкоды Слонімскага Старасты, арганізацыя Грамады расьце з кожным днём. Пачалі прыймаць учасьце ў арганізацыйнай працы і **жанчыны**, якія запісваюцца ў Грамаду. Наш староста робіць перашкоды ў палітычнай працы, ня лічучыся з істнуючымі законамі аб сходах, бо карае арганізатараў **няпублічных** сходаў, сяброў арганізацыі, пазываючыся на арт. 2 распараджэньня Генаральнага Кам. Усходніх Земляў з 25./V. 1919 г., у якім гаворыцца аб **публічных** сходах. Гэткія выпадкі зроблены Слонімскім Староствам з сябрамі Гурткоў в. Юхновічы, і Варонічы, Міжавіцкае гм., і Касьцяны, Чамерскае гм.

Гэтай дзеяльнасьцяй Слонімскі Староста ўзбурае насяленьне, якое ня хоча пераступаць цераз істнуючыя законы аб сходах. У выніку гэтага ўсе Гурткі павету назначылі свае сходы на адзін дзень 3/X, ды гэтым даказалі сваю арганізаванасьць, з прычыны перашкодаў з боку паліцыі, ня ўсе адбыліся. У в. Варонічы, Міжавіцкае гм., зьявіўшыяся ў часе сходу два паліцыянты з Кракоцкага пастарунку перашкаджалі правядзеньню сходу, пагражаючы стралянінай у таўпу. Паліцыянт Бялінскі заявіў на сходзе, што калі не разайдуцца, дык паліцыя будзе абстрэліваць звонку памешканьне, у якім былі 44 асобы сяброў. А як пабачыў Бялінскі, што і гэта пастрашка ня мае посьпеху, дык пачаў прасіць, каб не рабілі сходу хоць на гэты раз, радзячы другі раз зрабіць. На гэты раз сябры паслухалі, ды сход назначылі на 10/X.

Ня будзем баяцца незаконных паліцэйскіх пастрашак, ды будзем праводзіць сходы, маючы падставу ў істнуючых законах аб гэтым.

**Грамадавец.**

## АБВЕСТКІ Ц. С.

З 15-га лістапада с. г. пачаў працаваць **Беластоцкі Павятовы Камітэт Грамады**. Камітэт месьціцца **ў м. Беласток. Магілёўская вул. дом № 12 (Баранавіцкім шасэ)**. Старшыня Камітэту Аляксандар Грэсь. У справах арганізацыйных, а таксама за партыйнай літэратурай Грамады, за інструкцыямі і інфармацыямі Камітэты Гурткоў і паасобныя сябры Грамады Беластоцкага пав. маюць зьвяртацца да свайго Павятовага Камітэту па вышэйпаказанаму адрэсу. Камітэт працуе што-дня.

---

**Маладэчанскі Павятовы Камітэт Грамады** пачаў сваю працу з 13 га лістапада с. г. Месьціцца ён у **м. Маладэчна, Замковая вул. № 51**. Склад Камітэту: Семашкавіч Васіль — старшыня, Гулевіч Раман—скарбнік і Бубен Ігнат — сэкрэтар. Камітэт працуе што-дня. За партыйнымі друкамі Грамады і ўсімі інфармацыямі Камітэты Гурткоў Грамады Маладэчанскага пав. маюць зьвяртацца да свайго Павятовага Камітэту па вышэйпаданаму адрэсу.

**Цэнтральны Сэкрэтар. Грамады.**

### Ад Цэнтр. Сэкр. Бел. Сял.-Раб. Грамады.

**Лаплаўскаму гуртку.** Зборнік беларускіх песьняў друкуецца і ў хуткім часе **можна будзе атрымаць.**

**Лапцаўскаму гуртку.** Пратаколы атрыманы і пасьведчаньні высланы.

**Вінцэсю Крупіца.** Заўсёды можна перавыбраць тых сяброў камітэту гуртка, якія не адпавядаюць свайму становішчу.

---

Партыйны білет № 32917, выданы на імя Савасьценя Юрка ўневажн.

# ХРОНІКА.

**Суд над украінскімі дэпутатамі.** 16 лістапада ў Віленскім апэляцыйным судзе разглядалася справа трох украінскіх дэпутатаў: Паўлы Васыньчука, Максіма Чучмая і Сяргея Казіцкага, абвінавачаных у „антыпаньствовых" прамовах на вечы ў Пачаёве ў жніўні 1923 году. Справу гэтую сьпярша судзіў акружны суд у Роўным, які і засудзіў паслоў Васыньчука і Казіцкага на год, а Чучмая—на два гады папраўчага вастрогу. Апэляцыйны суд у Любліне, да якога засуджаныя зьвярнуліся з жалабай, апраўдаў усіх трох дэпутатаў. Гэты прыгавор абжалаваў пракурор, і Найвышэйшы Трыбунал у Варшаве, скасаваўшы прысуд люблінскага апэляцыйнага суда, загадаў новы разгляд справы віленскім апэляцыйным судом.

16 лістапада апошні—ў складзе судзьдзяў Бохвіца (старшыня), Сонгайлы і Дмахоўскага пры пракуроры Кадушкевічу прыступіў да новага разгляду справы. Баранілі дэпутатаў адвакаты: пасол Сьмяроўскі (Клюб Працы) з Варшавы і Сэнатар Карпінскі (Украінскі Клюб).

Абаронца Сьмяроўскі, адзначаючы патрэбу грунтоўнага разгляду справы, прасіў суд паклікаць сьведкаў, якія былі пакліканы акружным судом у Роўным, і дзеля гэтага суд адлажыць. Калі-б трудна было выклікаць сьведкаў у Вільню, дык суд мог бы выехаць прыкладам у Берасьце.

Пасьля перарыву, суд пастанавіў: справу адлажыць і з агульнае лічбы выступаўшых у Роўным сьведкаў выклікаць ў Вільню 21—(11 з боку абвінавачаньня і 10—з боку абароны).

На судовую расправу прыехала ў Вільню цэлая грамада ўкраінскіх паслоў і сэнатараў. Дарагіх, хоць прыехаўшых на Беларускую зямлю з прымусу, гасьцей вітала беларускае грамадзянства і паслы вячэрай.

**Ахвяры для Музэю.** Урад Бел. Т-ва гэтым высказывае сваю падзяву грамадзянам, ахвяраваўшым для музэю ім. Ів. Луцкевіча гэтыя рэчы: 1) Тацяне Былінскай, працаўніцы Ц. С. „Б.С.—Р.Гр.", за 27 манэт і 2 мядалі; 2) Янцы Грэцкаму з в. Залацеева, Дэрэчынск. гм., — за 3 манэты.

**Новыя календары.** Як мы ўжо абвяшчалі, заслужонае на выдавецкай ніве Беларускае Выдавецкае Таварыства друкуе сёлета два календары на 1927 год: 1) **Календар-кніжку** з багатым зьместам і чысьленымі рысункамі; 2) **адрыўны календар.**

Адначасна выяўляецца ў тым-жа кірунку і прыватная ініцыятыва. Гэтак ужо вышлі з друку пад рэдакцыяй Янкі Станкевіча коштам Марыі Станкевічыхі два календары: „**Беларускі Народны Календар**" — у ярка нацыянальным духу з гістарычным, літэратурным і інш. аддзеламі, ды Biełaruski Kalendar „Krynica", дужа маленькі і запоўнены выключна літэратурным матар'ялам (лацінікай).

Друкуецца і яшчэ адзін — беларуска-расейскі календар, выдаваны групай праваслаўных дзеячоў.

**Афіцыяльны курс грошы на 18-га лістапада.** Даляр — 8 зл. 95 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

18. XI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,98. Зал. руб. 4,70 Чырвонец 47-50.

# Ад Адміністрацыі.

Паведамляем усіх нашых паважаных падпішчыкаў, каторыя газэту атрымліваюць неакуратна, што адміністрацыя высылае такі лік экзэмпляраў, які значыцца ў „Карце прэнумараты", і што падпішчык, унесены у карту прэнумэраты, павінны атрымліваць газэту нумар у нумар, ведама, апрача сканфіскаваных: бо калі-б, праз памылку, адміністрацыя не даслала адпаведнай колькасьці экзэмпляраў ці „па дарозе прапалі", дык паштовы ўрад мусіць рэклямаваць (паведаміць адміністрацыю), і мы дашлем.

Трэбуйце карту прэнумэраты, дзе значацца ўсе нашы падпішчыкі, іх дакладныя адрэсы і лік экзэм. газ. на Вашу пошту.

Хто не атрымае якога-колечы нумару газэты, хай зьвернецца на сваю пошту і злажыць рэклямацыю, пішучы коратка: (можна на простым кавалку паперы) Reklamacja, не атрымаў такога нумару газэты, прашу даслаць.

# Пісьмы у Рэдакцыю.

*Паважаная Рэдакцыя!*

Прашу Вас не адмоўцеся надрукаваць у Вашай паважнай газэце „Народная Справа" ніжэйпаданыя імёны і прозьвішчы і суму ахвяраваных грошы на пагарэльцаў з в. Стары-Пагост, Нова-Пагостскай гм., Браслаўскага пав. Ахвяры злажылі гэтакія сябры Пілацкага Гуртка Белар. Сял.-Раб. Грамады: Катовіч Аляксандар—50 гр., Катовіч Андрэй—50 гр., Катовіч Клім — 50 гр., Ліпскі Базыль—50 гр., Карман Яфім — 50 гр., Чаркес Даніла — 50 гр., Апалька Янка—40 гр., Шудзель Аляксандар—35 гр., Маляўка Юльян—30 гр., Катовіч Уладзімір—20 гр.

З вялікаю пашанаю да Вас
Сэкрэтар Пілацкага Гуртка Б. С.-Р. Грамады
Аляксандар Катовіч.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Прашу зьмясьціць у Вашай газэце „Народная Справа" ніжэйпададзенае:

Селянін вёскі Какошчыцы, Чамерскае гм., Слонімскага пав., Міхась Добрыян, за тое, што ні насіў, ці ні вазіў у польскую школу, якая ад вёскі Какошчыцы за дзьве вярсты сваё дзіця, якое мае **два гады**, атрымаў ад Слонімскага Школьнага Інспэктара 5 злотых штрафу!

**Непакорны.**

*Паважаны Грам. Рэдактар!*

Не адмоўце ў Вашай паважанай газэце надрукаваць ніжэйпаданае:

З 1925 г. я лічыўся сябром „Kółka Rolniczego" ў в. Н.-Пескі, Косаўскага пав., але пераканаўся, што гэта ня нашая арганізацыя, якая ашуквае ды баламуціць нашае сялянства. Таксама пераканаўся, што мы, сяляне, ня можамісьці рука аб руку з польскімі асаднікамі. Дзеля гэтага выходжу з гэтае арганізацыі, хачу быць сябром Белар. Сялян.-Работ. Грамады, ведаючы, што Грамада ідзе правільным шляхам, змагаючыся за нашы сялянскія інтарэсы.

Радзіў-бы і другім сябром „колка" пасьледаваць за маім прыкладам. **Кастусь Гутыч.**

*Паважаны Грам. Рэдактар!*

Я, ніжэйпадпісаны Мікалай Валох, быўшы сябра Польскай Партыі Сацыялістычнай (ППС), пераканаўшыся, што пэпэсы ашуканцы, што галасуюць за тое, каб нам насадзілі польскіх асаднікаў, што йдуць проці роднай нам беларускай школы, што прадаюць інтарэсы працоўных, а павадыры іх служаць у дэфэнзыве і г. д., — выходжу з гэтай партыі, і ўступаю ў сваю Беларускую Сялян.-Работ. Грамаду, якая шчыра бароніць інтарэсы працоўных беларусаў і дабʼецца паляпшэньня іхняга жыцьця.

**Мікалай Валох.**

# Канфэрэнцыя у Менску.

З запрошаных з Вільні на Акадэмічную Канфэрэнцыю ў Менску ў справе ўсталеньня адналітасьці беларускага правапісу і рэформы яго асоб зьвярнуліся да польскіх уладаў аб дазвол на падарожу грамадзяне: Ант. Луцкевіч (аўтар першага правапісу) „Як правільна пісаць пабеларуску?" — 1916 г.), праф. Браніслаў Тарашкевіч (пасол, аўтар беларускае граматыкі, на якой абаперты сучасны правапіс), Р. Астроўскі (дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі і аўтар найнавейшага правапісу), доктар філялёгіі Ян Станкевіч (аўтар правапісу) і пасол Рак-Міхайлоўскі (аўтар беларускіх падручнікаў). З усіх жадаўшых ехаць польская ўлада дала пашпарт аднаму толькі грам. Станкевічу, рашуча адмовіўшы выдачы ўсім другім—ці то дзеля прычын „агульна-палітычных" (Луцкевіч,), ці—дзеля „недастатачнага абаснаваньня патрэбы ўчасьця ў Канфэрэнцыі" (Тарашкевіч, Рак), ці проста без матываў (Астроўскі). Такое палажэньне прымусіла і грам. Станкевіча зрачыся думкі аб падарожы ў імя салідарнасьці з другімі працаўнікамі ў галіне беларускае граматыкі і правапісу. Дзеля гэтага Беларускае Навуковае Таварыства паслала на Канфэрэнцыю такую тэлеграму:

„Урад Беларускага Навуковага Таварыства вітае Акадэмічную Канфэрэнцыю і шле ей жаданьне пасьпешнае працы. Адмова польскае ўлады выдаць пашпарты ўсім запрошаным на зьезд прымусіла і адзінага, што дастаў пашпарт, дзеля салідарнасьці ўстрымацца ад падарожы. Гэтак Заходняя Беларусь пазбаўлена прадстаўніцтва пры разьвязаньні пытаньняў нашага культарнага жыцьця першае вагі, вынікам чаго можа быць аднабокасьць пастановаў Канфэрэнцыі. Беларускае Навуковае Таварыства будзе лічыць рэзалюцыі Канфэрэнцыі **факультатыўнымі да ўзгадненьня іх з прадстаўніцтвам Заходняе Беларусі.** Таварыства просіць Канфэрэнцыю ўзьдзержыцца ад рэалізацыі прынятых пастановаў да такога ўзгадненьня.—

**Урад Таварыства".**

Аналягічную тэлеграму з выясьненьнем прычыны нявыезду на Канфэрэнцыю прадстаўнікоў Зах. Беларусі паслаў у Менск з Варшавы грам. пасол Тарашевіч, адзначаючы, што „**культурныя і навуковыя працаўнікі Зах. Беларусі пераканаяы, што ніякая сіла ня можа парваць культурнай еднасьці Беларускага Народу".**

# З жыцьця Горадні.

× **Дзень 7-га лістапада.** У дзевятыя ўгодкі кастрычнікавай рэвалюцыі палітычныя вязьні Горадзенскага вастрогу сьвяткавалі. Ад самае раніцы аж да 7 гадз. ўвечары чуваць было з-за муроў галасы аратараў і заўсёды па прамове чутны былі рэвалюцыйныя песьні. Паліцыя праз увесь гэты час была расстаўлена па ўсіх вуліцах, прылягаючых да вастрогу, так што па гэтых вуліцах хадзіць было забаронена.

× **Апошнія дебюты пэпэсаўцаў.** Фактам нязьбітым сёньня ёсьць тое, што польская партыя сацыялістычная (PPS—prawica) зусім збанкрутавала і зусім страціла ўплыў сярод польскага грамадзянства на землях Заходняй Беларусі. Гэта пацьвярджае і наступны факт.

На 7 лістапада быў абвешчаны ў клюбе чыгуншчыкаў пэпэсаўскі мітынг. За дзень да мітынгу па ўсім горадзе па вуліцах і закавулках былі разлеплены чырвоныя афішы, абвяшчаўшыя „Вэлькі прадвыборчы мітынг" да Касы Хворых.

Настаў дзень 7 лістапада. Зьліжалася першая гадзіна, гадзіна адкрыцьця мітынгу. Народу сабралося шмат, паміж народу было чутна гутарка: „a nu, zobaczym, jak te pepesowskie słowiki będą nam śpiewać"! На сцэне зьявіўся пэпэсаўскі дзеяч Гонэрко і пачаў, як казалі, „śpiewać". Пачаў выхваляць сваю партыю аж да неба, ганьбячы і лаючы ўсё больш левае за яе. Не абмінуў, ведама, і „Грамады", кажучы, што яна разьбіла адзіны фронт работнікаў да выбараў у Касу Хворых, што ад камітэту „Работніцкага Абʼяднаньня" выстаўлены кандыдаты-работнікі, якія ня змогуць і ня будуць умець выконываць свае абавязкі ў Касе Хворых, што толькі пэпэсаўцы праўдзіва і шчыра могуць бараніць інтарэсы працоўных. Прысутныя работнікі, якім надаела слухаць яго брахню, крыкнулі: „ганьба табе, сацыял-здрайца", „работніцкая кляса ганьбу вам шле"! „дэфэнзыўныя слугі вы, а не абаронцы работніцкай клясы"! і кінулі ўверх лістоўкі, якія пачалі разьлятацца па ўсей салі і ў якіх зьмешчаны былі наступныя лёзунгі: „**Не галасаваць за хадэцкіх шавіністаў—за лісту № 6,—ні за сацыял-здраднікаў работніцкае клясы ППС № 5,—ні за бундаўскіх сацыял-угадоўцаў і нацыянал-сацыялістаў № 4**, а галасаваць за праўдзівы работніцкі сьпісак № 7. Усе, як адзін, прысутныя работнікі з крыкам: „ганьба пэпэсаўцам"! пакінулі салю. Асталіся толькі два паліцыянты № 1493 і № 1463 і кольканадцаць „шпікоў", якім Гонэрко гаварыў: „widzicie, panowie, to wszysko komuniści"!

P. S. У сувязі з гэтым апошнім „дэбютам" пэпэсаўцаў 9 лістапада ў бруковым „Dzienniku Kresowym" была пададзена „вялікая" стацьця, аўтар якое піша, быццам на гэтым мітынгу было больш як 500 людзей і што як толькі Ганэрко пачаў крытыкаваць перадвыбарны камітэт „Работніцкага Абʼяднаньня" і Б. С. Р. Грамаду, „**дык узьняўся ў салі шум і нялічная грамадка камуністаў 20—30 асоб у перапалоху ўцякла на вуліцу**". Пытаюся ў аўтара: каго ён называець камуністамі і чаго ім было ў перапалоху ўцякаць? Бо ўсе сьвядомыя работнікі, якім непадабаліся вашыя „пенкныя сьпевы", як адзін, пакінулі салю.

**Молат.**

